ПРАВА
ВЕСНІК АБАРОНЧЫ
ЧЭРВЕНЬ, 2012
ГОМЕЛЬСКІ ПРАВААБАРОНЧЫ ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ

Скарга аб'яднання «За справядлівыя выбары» зарэгістравана ў ААН
СТАР. 3

Адмовы судоў разглядаць справы «невыязных» не вытрымліваюць крытыкі
СТАР. 4



# НАТАЛЬЛЯ ПІНЧУК:

## «Салідарнасьць — гэта тое, што падтрымлівае Алеся ў вязьніцы»

**Юры Дракахруст, «Радыё Свабода»**



**2 чэрвеня ў межах Глябальнага форуму, які праходзіць ва Ўроцлаве, адбылося ўручэньне ўзнагародаў Свабоды. Летась гэтую ўзнагароду, сярод іншых, атрымаў кіраўнік беларускага праваабарончага цэнтру «Вясна» Алесь Бяляцкі, які неўзабаве пасьля форуму быў арыштаваны і асуджаны да турэмнага зьняволеньня.**

Сёлета ляўрэатамі сталі Амэрыканскі Фонд падтрымкі дэмакратыі, віцэ-прэзыдэнт італьянскага Сэнату і кіраўнічка фонду арабскай дэмакратыі Эма Баніна і Ўладзіслаў Барташэўскі, былы міністар замежных справаў Польшчы, старшыня міжнароднай рады Нацыянальнага музэю Асьвенцыма. Акрамя таго ўзнагародай Свабоды быў завочна ўганараваны туніскі народ у асобе прэзыдэнта краіны Монсэфа Марзукі.

Падчас цырымоніі ўручэньня сёлетніх узнагародаў адбылася адмысловая акцыя салідарнасьці з Алесем Бяляцкім, у якой узяла ўдзел яго жонка Натальля Пінчук.

Падчас форуму спадарыня Пінчук адказала на некалькі пытаньняў «Свабоды».

*— Натальля, на ваш погляд такія імпрэзы, як сёньняшняя — ці могуць яны паўплываць на беларускія ўлады, каб яны вызвалілі вашага мужа, ці наадварот — гэта іх будзе толькі раздражняць, зьліць?*

— Прадказаць чые-небудзь дзеяньні, думкі я даўно не зьбіраюся, ў тым ліку і нашых уладаў. Я сваю задачу бачу ў іншым — рабіць усё тое, што ў пэўнай ступені можа дапамагчы Алесю ў той складанай сытуацыі, ў якой ён апынуўся.

*— А ў чым складанасьць яго сытуацыі? Аляксандар Лукашэнка нядаўна казаў, што вызваліць тых, каго Захад лічыць палітвязьнямі, калі яны напішуць прашэньні аб памілаваньні. Складанасьці зьвязаныя з гэтым ці проста з умовамі турмы?*

— Менавіта з умовамі турмы. Гэта цяжкае выпрабаваньне . Таму і хацелася б, каб Алесь і іншыя палітвязьні былі вызваленыя.

*— А які стан яго здароўя — вось на апошні час, калі вы зь ім спаткаліся?*

— Яго здароўе як раз выклікае ў мяне найбольшы клопат, таму што і падчас спатканьня, і падчас тэлефанаваньня я чула ў яго такі хваравіты кашаль. Раней у яго гэтага не было і я гэтым вельмі занепакоеная.

*— А якія ў яго стасункі з сукамэрнікамі?*

— Я не магу сказаць, бо ня ведаю канкрэтна. Адзінае, што той узмоцнены кантроль, які ўсталяваны за ім адміністрацыяй турмы, цягне за сабой абмежаваньне кантактаў зь іншымі зьняволенымі. І гэта стварае цяжкую псыхалягічную сытуацыю. Ціск робіцца разнастайны. Паводле закону доўгатэрміновае спатканьне з жонкай можа доўжыцца тры дні, а былі дадзеныя толькі адны суткі.

*— Вы адчуваеце салідарнасьць людзей з Беларусі і з-за мяжы?*

— Адназначна адчуваю. Салідарнасьць — гэта тое, што падтрымлівае Алеся ў вязьніцы. Людзі актыўна яму пішуць. Тое, што імя Алеся на слыху, і сёньняшняя цырымонія — гэта гаворыць аб той увазе, ў цэнтры якой знаходзіцца Алесь.

*— Вяртаючыся да гэтай заявы Лукашэнкі наконт прашэньня аб памілаваньні: ці ёсьць на Алеся ціск, каб ён падпісаў такое прашэньне, і ці параілі б яму вы яго падпісаць?*

— Наконт ціску канкрэтна сказаць не магу. Адзінае, што магу сказаць, што на момант 17 траўня, калі ў мяне было спатканьне зь ім, прашэньне не было падпісанае. Што тычыцца маёй думкі, то якой бы яна ні была, я ня маю права яе фармуляваць і аказваць які-небудзь ціск на Алеся. Гэта яго ўласны выбар у тым ці іншым выпадку.

ВЯСНА праваабарончы цэнтр

## патрабуе спыніць незаконныя адміністратыўныя арышты грамадскіх актывістаў

**Праваабарончы цэнтр "Вясна" асуджае незаконнае прыцягненне да адміністратыўнай адказнасці ў выглядзе арыштаў моладзевых актывістаў Мускага Міхаіла, Крэменецкага Зьміцера, Васільева Рамана, Дземідзенкі Мікалая, Вінаградава Паўла, а таксама праваабаронцу Алега Воўчака.**

Канстатуем, што ў Беларусі ўкаранілася ганебная практыка прыцягнення да адміністратыўнай адказнасці ў выглядзі адміністратыўнага арышту грамадскіх актывістаў.

Мы заяўляем, што сістэматычнае асуджэнне грамадзкіх дзеячоў на падставе сфальсіфікаваных матэрыялаў аб адміністратыўным правапарушэнні за дробнае хуліганства з'яўляецца злачыннай формай адвольных затрыманняў. Прыкра, што ў гэты незаконны пераслед ўцягнутыя не толькі органы ўнутраных справаў, але і суды, якія выносяць прысуды на падставе непраўдзівых матэрыялаў.

Так, Мускі Міхаіл, Крэмянецкі Зміцер, Дземідзенка Мікалай агулам толькі за вясну 2012 г. незакона былі асуджаны на 37 сутак адміністратыўнага арышту, а Павал Вінаградаў і Алег Воўчак двойчы асуджаліся на падставе сфальсіфікаваных супрацоўнікамі міліцыі матэрыялаў.

Праваабарончы цэнтр "Вясна" лічыць, што ўсе ўзгаданыя асобы незаконна і неаднаразова пазбаўляліся волі на працяглы тэрмін, і таму могуць на перыяд свайго затрымання лічыцца палітычнымі вязьнямі. Іх перасьлед носіць выключна палітычны характар і зьвязаны з іх грамадска-палітычнай дзейнасьцю.

**Праваабарончы цэнтр "Вясна" настойліва патрабуе:**

- неадкладнага спынення практыкі адміністратыўнага пераследу і незаконага асуджэння грамадскіх актывістаў па сфальсіфікаваных абвінавачваннях;
- прыцягнення да адказнасці ўсіх віноўных службовых асоб у незаконых асуджэннях;
- кампенсацыі страты здароўя і маральных пакутаў усім незаконна асуджаным.

## Гомель: цяжба з уладамі - праз ААН

У Гомелі цягам пяці гадоў дзейнічае Цэнтар стратэгічнай цяжбы, які ачольваюць юрыст Леанід Судаленка й грамадзкі актывіст Васіль Палякоў. Цэнтар дапамагае беларускім грамадзянам адстойваць свае канстытуцыйныя правы — як унутры краіны, так і ў міжнародных структурах.

«Цэнтар стратэгічнай цяжбы» атрымаў з Камітэту ААН па правах чалавека чарговае паведамленьне: прынятая скарга пра адмову ў дзяржаўнай рэгістрацыі грамадзкага аб'яднаньня «За справядлівыя выбары», заснавальнікам якога выступілі 94 беларускія грамадзяне, у тым ліку й вядомыя палітыкі Сяргей Калякін, Віктар Карняенка й Валер Ухналёў.



Яны пішуць пра парушэньне з боку Беларусі права грамадзянаў на свабоду аб'яднаньня й асацыяцыі, невыкананьне дзяржавай узятых на сябе ў гэтай частцы міжнародных абавязаньняў. У скарзе адзначаецца таксама, што дзейнасьць ад імя незарэгістраваных аб'яднаньняў у Беларусі разглядаецца як злачынства й перасьледуецца ў крымінальным парадку.

Паводле даверанасьці інтарэсы заяўнікаў у Камітэце ААН прадстаўляе юрыст Леанід Судаленка. Ён тлумачыў і прычыны нараджэньня такой ініцыятывы, як «Цэнтар стратэгічнай цяжбы»:

«У Гомельскім рэгіёне, як і ўва ўсёй краіне ў цэлым, вельмі шмат парушэньняў правоў грамадзянаў. Аднавіць парушанае права ў беларускіх судах практычна немагчыма, асабліва калі гэта тычыцца грамадзянскіх ды палітычных правоў. У прыватнасьці, такіх, як права на свабоду выказваньня сваіх меркаваньняў, права на мірныя сходы, права на незалежны суд, права абіраць і быць абраным. Практычна нельга абараніцца й ад дыскрымінацыі паводле палітычных матываў».

Суразмоўца кажа, што ў Камітэт ААН пададзена звыш паўсотні скаргаў грамадзянаў пра парушэньне іхніх правоў. І напісаныя яны пасьля таго, як людзі вычарпалі ўсе сродкі прававой абароны ўнутры краіны — прайшлі ўсе беларускія судовыя інстанцыі, уключна зь Вярхоўным судом.

У шасьці выпадках Камітэт ААН прызнаў дзеяньні беларускіх уладаў неабгрунтаванымі. У прыватнасьці — ліквідацыю праз суд грамадзкага аб'яднаньня «Грамадзянскія ініцыятывы», адмову ў рэгістрацыі аб'яднаньня «Грамадзянская альтэрнатыва».

Леанід Судаленка працягвае: «Удалося дапамагчы Віктару Карняенку й Аляксандру Мілінкевічу. Мы даказалі, што да спадара Мілінкевіча падчас прэзыдэнцкіх выбараў 2006 году была прыменена адкрытая дыскрымінацыя з палітычных матываў. Удалося абараніць правы на распаўсюд інфармацыі грамадзкага актывіста Ўладзімера Кацоры — у яго падчас парлямэнцкай кампаніі канфіскавалі 15 тысяч перадвыбарчых улётак. Таксама ўдалося абараніць грамадзкую актывістку Марысю Тульжанкову, якая распаўсюджвала ў Гомелі ўлёткі наконт правядзеньня ў Менску Дня Волі і яе незаконна аштрафавалі»..

**Заканчэнне на 3 стар.**

## **Гомель:** цяжба з уладамі - праз ААН

**(Заканчэнне)**

Грамадзкі актывіст і палітык Васіль Палякоў дадае: гомельскі «Цэнтар стратэгічнай цяжбы» працуе ледзь не на ўсю Беларусь. Сюды зьвяртаюцца па дапамогу людзі зь Берасьця, Гародні, Віцебску, Менску:

«Калі паўстала пытаньне, якім чынам рэагаваць на адмову Міністэрства юстыцыі зарэгістраваць грамадзкую арганізацыю „За справядлівыя выбары“, Сяргей Калякін зьвярнуўся ў наш цэнтар, і з нашым удзелам рыхтавалася скарга ў Камітэт ААН па правах чалавека. І зараз камунікацыя з Камітэтам вядзецца праз нас».

Тым часам улады не прызнаюць і не выконваюць рашэньні Камітэту ААН — не адноўленыя незаконна зьліквідаваныя арганізацыі, ня вернутыя актывістам грошы за накладзеныя штрафы. Не адноўленыя на працы і людзі, чыё звальненьне прызнана палітычна матываваным.

Спадар Палякоў выказвае сваю думку на гэты конт: «Гэта залежыць ад сьветапогляду ўлады, яе культуры. Згодна зь міжнароднымі дамовамі ўлады павінны выконваць усе рашэньні Камітэту. Яны носяць абавязковы характар. І тое, што рашэньні не выконваюцца, — гэта вельмі дрэнна, гэта падрывае аўтарытэт улады. Тут размова ідзе пра імідж дзяржавы».

Цяперашняя праца цэнтру, як лічыць Васіль Палякоў, скіраваная на будучыню: «Сёньня мы больш працуем, па-першае, на пэрспэктыву. Па-другое, працуем над тым, каб мяняць правасьвядомасьць судзьдзяў, адвакатаў, чыноўнікаў. Адна справа, калі мы кажам, што парушана нацыянальнае заканадаўства. Іншая справа, калі мы спасылаемся на міжнародныя нормы, на практыку Камітэту ААН, Эўрапейскага суду. Яны бачаць, што праўда й перавага на нашым баку, што гэтыя нормы немагчыма парушаць. Беларускае заканадаўства таксама прызнае іхні прыярытэт, і яны — частка беларускага заканадаўства».

Вялікую колькасьць зваротаў менавіта ў Камітэт ААН па правах чалавека ў «Цэнтры стратэгічнай цяжбы» тлумачаць тым, што Беларусь не падпісала міжнародныя пагадненьні, згодна зь якімі грамадзяне краіны маглі б зьвяртацца па абарону правоў яшчэ і ў Эўрапейскі суд.

**Радыё Свабода**

**У сярэдзіне мінулага года мінюст Беларусі адмовіў у дзяржаўнай рэгістрацыі заснавальнікам Сяргею Калякіну, Валерыю Ухналёву і Віктару Карняенка, а таксама іншым 91 беларускім грамадзянам створанага грамадскага аб'яднання. Вярхоўны суд пацвердзіў высновы рэгіструючага органа, тым самым паставіўшы членаў аб'яднання ў нелегальнае становішча.**

## Скарга ГА "За справядлівыя выбары" **зарэгістраваная ў ААН**




У пададзенай у Камітэт ААН па правах чалавека скарзе Сяргей Калякін, сумесна з іншымі сцвярджаюць аб парушэнні з боку Беларусі іх права на свабоду аб'яднання (асацыяцыі), а таксама звяртаюць увагу, што Беларусь не выконвае ўзятыя на сябе міжнародныя абавязацельствы ў гэтай частцы. У скарзе таксама адзначаецца, што дзейнасць ад імя незарэгістраваных аб'яднанняў у Беларусі з'яўляецца злачынствам і караецца ў крымінальным парадку.
Цяпер беларускаму ўраду прыйдзецца шукаць адказ на пытанне, чаму ў краіне няма месца створанаму праваабарончаму ГА "За справядлівыя выбары».

Гомельскі юрыст **Леанід Судаленка**, які па даверанасці прадстаўляе інтарэсы заяўнікаў ў ААН, упэўнены, што па дадзенай скарзе будзе ўсталяваны факт парушэння артыкула 22 Міжнароднага акта аб грамадзянскіх і палітычных правах.

*- Камітэт па правах чалавека ўжо неаднаразова выносіў рашэнні па скаргах грамадзян Беларусі, якім было адмоўлена ў іх праве на свабоду асацыяцыі з іншымі. Існаванне і дзейнасць аб'яднанняў, у тым ліку і тых, якія мірным спосабам распаўсюджваюць ідэі, але не падтрымліваюцца дзяржавай, з'яўляецца ключавым момантам любога дэмакратычнага грамадства, - падкрэсліваюць у такіх справах міжнародныя эксперты.*

Раней аўтарытэтная міжнародная інстанцыя прызнавала факт парушэння правоў беларускіх грамадзян на свабоду аб'яднання ў такіх справах як ліквідацыя ў судовым парадку Гомельскага ГА «Грамадзянскія ініцыятывы» і праваабарончага цэнтра "Вясна", а таксама па факце адмовы ў рэгістрацыі ГА «Хельсінкі XXI" (Мінск) і ГА "Грамадзянская альтэрнатыва" (Гомель), - нагадаў праваабаронца.



## Гомельскія актывісты ініцыявалі змяненне адміністрацыйнага заканадаўства

**Чытайце на 4 стар.**

Гомельскія актывісты Уладзімір Кацора і Уладзімір Няпомняшчых атрымалі адказ ад старшыні пастаяннай камісіі па заканадаўстве і судова-прававых пытаннях Мікалая Самасейкі, які запэўніў, што дэпутаты ў бліжэйшы час у абавязковым парадку зменяць становішча артыкула 8.4. Працэсуальна-выканаўчага кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях (ПВКабАП).

# Адмовы судоў разгледзець справы “невыяздных” не вытрымліваюць ніякай крытыкі

*Каментуючы адмовы судоў узбудзіць справы па скаргах “невыяздных” грамадзян, старшыня Гомельскага гарадскога аддзялення РГА "Прававая ініцыятыва", юрыст Леанід Судаленка выказаў меркаванне, што людзі ў мантыях сталі закладнікамі той сітуацыі, якую стварыла ўлада вакол сваіх іншадумных апанентаў.*

Гомельскі праваабаронца лічыць, што прычыны, якія уладай называюцца ў якасці аргументаў для абмежавання права на выезд з краіны, не вытрымліваюць ніякай крытыкі.

“Выпадак, які адбыўся нядаўна з журналістам з Брэста Міхаілам Янчуком, і якога ў базу “невыяздных” ўнёс ваенкам горада Рэчыца, Гомельскай вобласці толькі пацьвярджае мае высновы - калёсы запрэжаныя наперадзе каня! Такога хамства ў адносінах да сябе не вытрымаў нават раённы ваенкам, заявіўшы журналісту, што гатовы ў судзе абвергнуць атрыманую інфармацыю”, - падзяліўся сваімі разважаннямі суразмоўца.

Ён нагадаў, што па падобным скаргах суддзі абавязаны вынесці рашэнне на працягу аднаго месяца з дня атрымання скаргі. Такія патрабаванні грамадзянска-працэсуальнага заканадаўства. Пасля атрымання скаргі суддзя абавязаны альбо адмовіць заяўніку ва ўзбуджэнні справы пры наяўнасці для таго законных падстаў, пакінуць скаргу без руху для выпраўлення наяўных недахопаў альбо ўзбудзіць яе. Мы ж бачым сітуацыю, калі пасля атрымання скаргаў суддзі проста маўчаць. Напрыклад, сустаршыні грамадскай кампаніі "За справядлівыя выбары" Віктару Карняенка адмоўлена ў выездзе з краіны без тлумачэння усякіх прычын. У войска яго не заклікаюць, міліцыя прэтэнзій таксама не мае, а вось суд ужо паўтара месяца маўчыць пасля атрымання яго скаргі.

У гэтай сітуацыі я рэкамендую ўсім, хто падаў скаргу ў суд і не атрымлівае больш за месяц вестак аб яе лёсе звярнуцца з пісьмовай заявай на імя старшыні суда з указаннем факту парушэння працэсуальных тэрмінаў. У залежнасці ад атрыманага адказу можна будзе весці размову або аб адмове ў правасуддзі альбо падаваць скаргі ў вышэйшыя інстанцыі аб парушэнні судамі працэсуальнага заканадаўства, - падсумаваў праваабаронца.

Нагадаем, у інтэрв'ю тэлекампаніі Расіі сёння («Расія сёння»), Аляксандр Лукашэнка заявіў аб стварэнні спісу ў піку спісу неўязных беларускіх чыноўнікаў у краіны ЕС. "І то мы яго яшчэ не ўвялі, на поўную моц яшчэ не ўвялі. Але ўвядзем ... », - прыгразіў ён тады.

Адмовы ў выездзе за мяжу за апошнія месяцы атрымалі палітыкі Анатоль Лябедзька, Леў Марголін, Віктар Карняенка, Сяргей Калякін, Валерый Ухналёў, Вінцук Вячорка, Станіслаў Шушкевіч, праваабаронцы Валянцін Стэфановіч, Алег Гулак, Гары Паганяйла, Андрэй Бандарэнка, журналісты Жанна Літвіна, Міхаіл Янчук і Андрэй Дынько. Амаль усе яны даведаліся аб забароне на выезд з краіны толькі пры спробе перасекчы мяжу.

## *Гомельскія актывісты ініцыявалі змяненне адміністрацыйнага заканадаўства*

**Пачатак на 3 стар.**

Сутнасць узнімаючых пытанняў заключаецца ў неадпаведнасці названай нормы ПВКабАП Канстытуцыі і міжнароднаму заканадаўству. Гамяльчане звярнулі ўвагу, што калі былі затрыманыя 7 і 8 кастрычніка 2011 міліцыяй па абвінавачванні ў здзяйсненні правапарушэнняў, то былі адразу змешчаны ў ІЧУ. Праз двое сутак суд прызнаў іх вінаватымі ў правапарушэнні і пакараў штрафам, а вось пытанне іх арышту засталося судом не разгледжаным.

На думку заяўнікаў, норма закона “фізічная асоба, якая здзейсніла правапарушэнне” не мае легальнага тлумачэння заканадаўца. Важна адзначыць, што артыкул 8.4 ПВКабАП у частцы зместу тэрміна "асоба, якая ўчыніла правапарушэнне”, супярэчыць прэзумпцыі невінаватасці, устаноўленай артыкулам 2.7 ПВКабАП.

Актывісты лічаць, што пералічаныя калізіі адміністрацыйнага заканадаўства на практыцы прывялі да парушэння іх права на свабоду і асабістую недатыкальнасць. Яны лічаць, што пазасудовы арышт альбо адміністрацыйнае затрыманне ў вачах аб'ектыўнага назіральніка павінны быць разумнымі і неабходнымі ў канкрэтных абставінах, і не супярэчыць праву на свабоду кожнага, асабістую недатыкальнасць і прэзумпцыю невінаватасці.

Старшыня пастаяннай камісіі парламента Мікалай Самасейка запэўнівае актывістаў, што як толькі да дэпутатаў паступіць праект закона аб унясенні змяненняў у ПВКабАП, дэпутаты ў абавязковым парадку разгледзяць падняты імі пытанне, пра што ім будзе паведамлена дадаткова.

Нагадаем, з падобнай ініцыятывай актывісты звярталіся таксама ў Адміністрацыю прэзідэнта, Вярхоўны суд і Савет Рэспублікі.

Вярхоўны суд прыйшоў да высновы, што “падставаў для ўзбуджэння ў Канстытуцыйным судзе вытворчасці па праверцы адміністрацыйнага заканадаўства на адпаведнасць Канстытуцыі няма”.

**http://gomelspring.org**

Праваабарончы весьнік. Гомельскі праваабарончы інфармацыйны бюлетэнь.
Распаўсюджваецца бясплатна. Наклад: 299 асобнікаў.